# І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** Чэрвень 2016

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну**


**ГУМНО ГІСТАРЫЧНАЕ**



Статутъ великого князства литовского

ѿ наяснейшего г(оспо)д(а)ря короля его м(и)л(о)ти жикгимонта третего накоронацыи въкракове выданы року

а. ф. пи.

## 450 год Статуту ВКЛ 1566 года

стар. 2

**Беларуская мова і правы спажыўцоў**

стар. 3

**Чаму "руская мова" не "русский язык"**

стар. 5

**Успаміны гамельскага сяляніна Андрэя Грамыкі: «Ой, Лявоніху Лявон палюбіў»**

стар. 2

# 450 год Статуту ВКЛ 1566 года

***У лістападзе 1551 г. вялікі князь Жыгімонт II Аўгуст, адказваючы на просьбы дэпутатаў сойма, вырашыў са згоды паноў рады ўтварыць камісію па падрыхтоўцы новай рэдакцыі Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 г. з 10 асобаў (5 католікаў і 5 праваслаўных).***



Працай гэтай камісіі кіраваў канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл "Чорны". У лісце Аўгусціна Ратондуса да кардынала Станіслава Гозія ад 5 сакавіка 1566 г. з вялікім жалем гаворыцца, што ў Статут 1566 года былі ўключаны нормы, якія не адпавядалі інтарэсам каталіцкай царквы.

Аўгусцін Ратондус піша, што "Пры ўкладанні тых праў я меў вельмі шмат упартых спрэчак з ерэтыкамі, якія складалі амаль большую частку сярод складальнікаў гэтага права. Многія, і то сярод вялікіх імён, заяўлялі, што лаціна для іх непатрэбная і шкодная і што ўсялякае зло было прынесена ў Літву гэтаю моваю".

Прыхільнікі каталіцкай царквы дамагаліся ўключыць у Статут 1566 года, якія забяспечвалі інтарэсы каталіцкага духавенства, і выдаць яго, апрача беларускай мовы, адначасова на лацінскай, але іх намаганні былі адхілены "вялікай сілаю".

*Ігар Случак*

# Успаміны гамельскага сяляніна Андрэя Грамыкі: «Ой, Лявоніху Лявон палюбіў»

***Чытаю ўспаміны Андрэя Грамыкі. Чытво вельмі цікавае і добра напісанае.***

Уражвае, што аўтар, які нарадзіўся і вырас у беларускай вёсцы пад Гомелем і вучыўся ў Барысыве і Мінску, ані словам не кажа пра сваё беларускае паходжанне. Паўсюль у яго «нашї велікіе русскіе богатырі», «русь», «отторженіе Гомеля от Русі», «нашім русскім обычаем». Літаральна ў адным месцы ў кнізе ён узгадаў, абсалютна адвязана ад кантэксту, што людзі ў вёсцы спявалі песню «Ой, Лявоніху Лявон палюбіў». Па сутнасці, гэтага дастаткова, каб зрабіць высновы. Гэта, у нейкім сэнсе, закадаванае пасланне нашчадкам ад вязня ўласных комплексаў. Рэжа слых, вядома, хаця я разумею, што для кар'еры ў Маскве малады Грамыка рабіў і не такія ахвяры.

Ёсць у кнізе амаль цэлы раздзел, дзе Грамыка дакарае амерыканцаў, што яны не перадухілілі Другой сусветнай вайны.

«В предвоенны годы США не планировали и не предпринимали шагов по оказанию отпора странам, вставшим на путь агрессии. Только слепые могли не видеть агрессивную философию нациста».

Гэта піша чалавек, які яшчэ да вайны пачаў працу ў Народным камісарыяце замежных спраў. У тым самым, які падпісаў дамову з гітлераўскай Нямеччынай, стаўшы яго саюзнікам. І піша ён гэта ў 1988, за год да таго, як З'езд народных дэпутатаў СССР асудзіў пакт Молатава-Рыбентропа. Не ведаю, што гэта — страта палітычнай інтуіцыі ў сапраўды таленавітага дыпламата, які хутка будзе алес капут «велікой родіне» ці сляпая вера ў тое, што гэта на вякі застанецца таямніцай. Што б гэта ні было, але чытаецца сёння з усмешкай. Час, парою, робіць вялікіх людзей яшчэ і смешнымі.

*Дзмітры Гурневіч*

# Беларуская мова і правы спажыўцоў

***Агульная моўная сітуацыя яскрава адлюстроўваецца на этыкетках тавараў. Беларускія вытворцы выкарыстоўваюць на этыкетках рускую мову, толькі назоў прадпрыемства, прадстаўлены адным словам, часам можна сустрэць на беларускай мове, усе астатнія звесткі, у тым ліку інструкцыя па выкарыстанню – на рускай мове.***

Таварныя знакі і этыкеткі адлюстроўваюць агульную сітуацыю, у якой нацыянальная мова гуляе сімвалічную, ідэнтыфікацыйную, эстэтычную, але не выконвае галоўную - камунікатыўную функцыю. Беларускія таварныя знакі ў цэлым адлюстроўваюць схільнасць мажарытарнаму ўплыву – мова этыкетак у пераважнай большасці - руская).

Дзяржаўныя органы і юрыдычныя асобы (асабліва ў галіне сувязі, аховы здароўя, бытавога абслугоўвання) не заўжды распрацоўваюць бланкі на абедзвюх дзяржаўных мовах, а пры вусных зваротах часта прымушаюць грамадзян перайсці на больш зразумелую супрацоўнікам такіх органаў і асоб мову, што з'яўляецца недапушчальным і не можа грунтавацца на артыкуле 8 Закона "Аб мовах".

Больш за тое дзяржаўныя органы павінны зацвярджаць і распаўсюджваюць формы дакументаў на абедзвюх дзяржаўных мовах: мытныя дэкларацыі, падатковыя дэкларацыі, заявы, даведкі і г.д., бо менавіта грамадзянін ці юрыдычная асоба маюць права выбіраць мову, якая ім больш зразумелая для запаўнення дакументаў, але наперад трэба зразумець змест такіх форм. Міністэрствам юстыцыі павінны быць цэнтралізавана распрацаваны натарыяльныя дакументы, падрыхтаваныя на беларускай мове для выканання арт. 16 Закона "Аб мовах", ч. 3 арт. 20 Закона "Аб натарыяце і натарыяльнай дзейнасці".

Выбіраць мову натарыяльных дзеянняў павінны асобы, якія іх заказваюць. Банкаўскія ўстановы і іншыя юрыдычныя асобы павінны дазваляць фізічным асобам выбіраць мову заключаемай так званай. "публічнага" дамовы. Інфармацыя на таварах (у тым ліку інструкцыі па эксплуатацыі), а таксама інфармацыя пра паслугі і работы амаль заўжды даводзіцца на адной дзяржаўнай мове. Фармальна гэта адпавядае арт. 13, 30 Закона "Аб мовах", арт. 5 Закона "Аб абароне правоў спажыўцоў".




З-за несупадаючай з Канстытуцыяй канструкцыі нормы церпяць простыя спажыўцы. У прыватным выпадку грамадзяніна, што прасіў Міністэрства па падатках і зборах распрацаваць новы беларускамоўны бланк падатковай дэкларацыі. Міністэрства паведаміла грамадзяніну, што бланкі незацверджанай формы выкарыстоўваць нельга, а, паколькі заканадаўства не абавязвае дзяржустановы прымаць нарматыўныя прававыя акты на дзвюх дзяржаўных мовах, то міністэрства зацвердзіла форму падатковай дэкларацыі на рускай мове.

У апошні час над правам атрымліваць інфармацыю на беларускай мове навісла дадатковая пагроза. Закон «Аб мовах » дае вытворцам права выбару мовы маркіроўкі тавараў, пазначаючы ў арт. 30, што «маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі па карыстанні таварамі выконваюцца на беларускай або расійскай мове».

Тое самае гаворыць і Закон «Аб абароне правоў спажыўцоў», які ў п.9 арт. 7 «Інфармацыя аб таварах (работах, паслугах)» замацоўвае тую норму, што «інфармацыя, прадугледжаная пунктамі 1–8 гэтага артыкула, на беларускай або рускай мове дакладным і разборлівым шрыфтам

даводзіцца да ведама спажыўца ў дакументацыі, якая дадаецца да тавараў (работ, паслуг), на спажывецкай тары (упакоўцы), этыкетках або іншым спосабам, прынятым для асобных відаў тавараў (работ, паслуг)». Тое самае ў гэтым законе прапісана і ў п. 4 арт. 8 «Інфармацыя аб вытворцах (выканаўцах, прадаўцах)».

Дзяржаўны стандарт Беларусі № СТБ 1100-2007 «Харчовыя прадукты. Інфармацыя для спажыўца. Агульныя патрабаванні» сцвярджае, што любы беларускі вытворца можа выканаць упакоўку свайго тавара па-беларуску. У чацвёртым раздзеле гэтага дакумента ёсць п. 4.3, дзе сказана, што «інфармацыя для спажыўца ў выглядзе тэксту наносіцца на беларускай і/або рускай мове і пры неабходнасці на замежнай мове ў адпаведнасці з нормамі мовы, на якой прыведзена інфармацыя». Тэхнічны рэгламент Мытнага саюза № ТР ТС 005/2011 «Аб бяспецы ўпакоўкі», які цяпер дзейнічае і ў Беларусі, трыма радкамі п. 4 арт. 6 перакрэсліў усе нормы, прапісаныя і ў Канстытуцыі, і ў Законе «Аб мовах», і ў Законе «Аб абароне правоў спажыўцоў», і ў адпаведных рэспубліканскіх стандартах. Цяпер у нас з дзвюх раўнапраўных моў, адна нават заканадаўча атрымала больш высокі статус.

Названая папера прадпісвае, што «інфармацыя павінна быць выкладзена на рускай мове і на дзяржаўнай(ых) мове(ах) дзяржавы-чальца МС пры наяўнасці адпаведных патрабаванняў у заканадаўстве(ах) дзяржавы(ў)-чальца(оў) МС». Згодна п. 4.1.2 ТР МС "Харчовая прадукцыя ў частцы яе маркіроўкі" (ТР ТС 022-2011), "…маркіроўка запакаванай харчовай прадукцыі павінна быць нанесена на рускай мове і на дзяржаўнай(ых) мове(ах) дзяржавы-ўдзельніцы Мытнага саюзу пры наяўнасці адпаведных патрабаванняў у заканадаўстве(ах) дзяржавы(аў)-удзельніцы(аў)…".

"Або" ў артыкуле аб маркіроўцы Закона "Аб мовах" зводзіць сітуацыю да наступнага: руская мова зараз у маркіроўцы азначанай прадукцыі абавязковая, а беларуская – не. Калі нашыя законы даюць права вытворцу абіраць – падаваць інфармацыю на ўпакоўках сваіх тавараў па-руску або па-беларуску, а новы Тэхнічны рэгламент патрабуе, каб руская мова прысутнічала абавязкова, то пра беларускую мову можна нават і не задумвацца – выбар відавочны.

Бо абавязковасць беларускай мовы нідзе не патрабуецца, а свядомае выкарыстанне дзвюх дзяржаўных моў выкліча дадатковыя расходы і паставіць канчатковую прадукцыю ў няроўныя канкурэнтныя ўмовы з «аднамоўнаю».

Яшчэ да ўводу ў дзеянне ТР МС я даслаў нашым парламентарыям пісьмовыя звароты з прапановамі ўнясення зменаў у законы «Аб мовах» і «Аб абароне правоў спажыўцоў», якія прадугледжвалі абавязковае патрабаванне прысутнасці на любой прадукцыі (таварах, работах і паслугах) інфармацыі аб ёй на абедзвюх дзяржаўных мовах. І менавіта тады пераважная большасць дэпутатаў адказвала, што не падтрымлівае мае прапановы, бо (тут ледзь не ва ўсіх адказах былі цалкам ідэнтычныя, нібы раздрукаваныя з аднаго файла, толькі з рознымі подпісамі, фармулёўкі абгрунтавання) «рэалізацыя прапановы прывядзе да дадатковых выдаткаў, а значыць — да павышэння цэн на тавары (работы, паслугі), што відавочна супярэчыць інтарэсам нашых грамадзян».

Пасля таго, як выкрылася ганебная сітуацыя з віцебскім прадпрымальнікам, які не змог атрымаць сертыфікат адпаведнасці на прадукт, што быў аздоблены без выкарыстання рускай мовы, я вырашыў аднавіць перапіску з парламентарыямі ў сувязі з новымі акалічнасцямі, якія ўзніклі ў справе.

Але дагэтуль толькі некалькі дэпутатаў ў сваіх адказах выказаліся, што пры ўнясенні ў парламент законапраекта аб унясенні зменаў у Законы «Аб мовах» і «Аб абароне правоў спажыўцоў» яны падтрымаюць змены таго кшталту, што інфармацыя аб таварах і паслугах павінна даводзіцца да ведама спажыўца на абедзвюх дзяржаўных мовах.

На сённяшні час мае прапановы аб унясенні змен у Закон "Аб абароне правоў спажыўцоў" паводле якіх інфармацыя аб тавары павінна даводзіцца да спажыўца адразу на двух дзяржаўных мовах падтрымліваюць больш за 20 дэпутатаў. Таксама дадзеныя змены падтрымлівае Міністэрства культуры і Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследванняў.

Даследаванні паказваюць, што да 70% беларусаў станоўча ўспрымаюць рэкламу на беларускай мове, а 37% – лічаць, што яе ў рэкламе не хапае. У 2012 годзе я звярнуўся да дэпутатаў Палату прадстаўнікоў з прапановай падтрымаць змены ў адпаведныя артыкулы закона «Аб рэкламе», паводле якіх рэклама павінна быць адначасова на дзвюх мовах, альбо ўвесці норму 70% рэкламы на беларускай мове.

Такі падыход, забяспечыць стварэнне і трансляцыю рэкламнай прадукцыі на дзвюх дзяржаўных мовах і павысіць статус беларускай. Нарматыўнае рэгуляванне двухмоўя ў рэкламе падштурхне да выкарыстання і павысіць канкурэнтаздольнасць беларускай мовы. У выніку выйграюць як спажыўцы, так і беларускі бізнес.

На сённяшні час дадзеныя прапановы не рэалізаваны.

*Ігар Случак*

# Чаму "руская мова" не "русский язык"

***Беларускую мову «рускаю» называлі Скарына, Будны, Цяпінскі ды ўсе іншыя пісьменьнікі Беларусі той пары. Не «рускаю», а «маскоўскай» называлі тады ў Беларусі мову Масковіі, мову сучасных расіян і Расійскай Федэрацыі.***

Напрыклад, «маскоўскай» называў яе Сымон Будны, «ензык москевскі», казалі тады і у Польшчы. У Польшчы назву гэту пачалі забываць толькі ад пачаткаў XIX стагодзьдзя па патрабаванню расійскіх уладаў. Тады пад расійскім націскам быў заведзены для расійскай мовы назоў «ензык росыйскі».

















Прычыны, чаму пісьмовую мову ВКЛ «рускаю» не называлі паслы маскоўскія ў тым, што ў Маскве тады так называлі мову сваю, мову расійскую. Паслам маскоўскім, як і ўсім маскоўцам, было ясна, што на мове, якой былі напісаны каралеўскія граматы, ці Статуты ВКЛ, у Маскве ніхто не гаварыў. Адметнасьць дзяржаўнай мовы ВКЛ ад сваёй «русское» мовы маскоўцы і пазначалі назвамі «белорусский язык», «белорусское письмо» і якія ў гэты час у Маскве ўжо шырака выкарыстоўваліся.

Я. Рудзенка і Ю. Чарняўская заўважаюць: “Шэраг даследчыкаў, прыхільнікаў “вялікарускай канцэпцыі“, лічыў, што беларуская мова не больш, чым мадыфікацыя рускай мовы, адмаўляючы ёй ў спецыфічнасці і самабытнасці. Гэты пункт гледжання лёгка аспрэчваецца наступным фактам: для выдання ў Маскве Трэцяга Статуту ВКЛ спатрэбіўся яго пераклад, у чым не было б ніякай неабходнасці, калі б Статут быў напісаны па-руску”.

Гэта добра з спрэчкі 10 сакавіка 1646 г. ў Варшаве паслоў Масковіі з сенатарамі Польшчы ў пытаньні, якую мову ўжываць пры дыпламатычнай перапісцы караля Рэчы Паспалітай з маскоўскім царом.

Перамовы маскоўскія паслы пачалі з таго, што зноўку ўзнялі старыя скаргі Масковіі на тое, што ў граматах да цара ад караля ды яго падданых не захоўваецца адпаведная «царскай вялікасьці», вызначаная Паляnaўскай дамовай, тытуляцыя.

На пратэст маскоўскіх паслоў паны-рады адказалі: “На Бога прысягаем, што па-польску самодержцы і самодержцу адно і тое ж. Калі-ж па-руску не так, дык на будучыню мы строга будзем сачыць, каб памылкак не было. Ды ў будучыні гаспадару нашаму і пісаць да царскае вялікасьці ў граматах трэба лепш па-польску... тады і памылак не будзе”.

Прапанова, каб у перапісцы караля з царом перайсці на мову польскую, маскоўскія паслы адкінулі словамі: “Издавна повелось, что грамоты королевские к великому государю пишутся белорусским письмом, и теперь, мимо обычаев, по-польски писать не годится, да у порубежных воевод и переводчиков нет”.

Варшаўская спрэчка маскоўскіх «вялікіх паслоў» з панамі польскай каралеўскай рады паказвае нам тое, што ў 1646 г., або ў 1-й пал. XVII стагодзьдзя, абавязковай афіцыйнай мовай дыпляматычнай перапіскі паміж Польшчай і Масковіяй была, па старой традыцыі, усё яшчэ мова беларуская. Мову каралеўскіх граматаў да цара «беларускай» называлі і

самі царскія паслы. Ужыты гэтым разам пасламі Масковіі для старабеларускай пісьмовай мовы назвы «белорусское письмо» не нейкі адзіночны выпадак і не выключэнне. Ведомы тысячы маскоўскіх дакументаў і граматаў, ды і маскоўскія кніжныя выданьні той пары, у якіх мова гэтая называецца «беларускай», хоць побач калі-некалі сустракаецца і назва «литовский язык».

Калі ў ходзе спрэчкі аб памылцы ў царскай тытуляцыі паны каралеўскае рады тую самую мову называлі не «беларускай», як паслы маскоўскія, а «рускай» (хоць-бы ў звароце «дзячкі пішуць, не ведаючы добра рускай мовы»), дык таму, што гэтак афіцыйна называлася тады гэтая мова і ў самой Беларусі, у дзяржаўных яе нават законах.

У артыкуле I-м IV раздзела Статута ВКЛ 1588 г. было запісана: “А писар земский маеть порускулитерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншим езыком и словы”.

Вось назовы «рускі», якая тады была афіцыйнай і ў Беларусі, і ў Польшчы, паны каралеўскае рады і трымаліся.

Гэта важна ўсведамляць усім, хто сутыкаецца з архіўнымі ды іншымі пісьмовымі памяткамі таго часу, каб засцерагчыся ад памылковага іх разумення ды памылковых высноваў. Справу ўскладняе яшчэ і тое, што назва «руская мова» тады здаралася, асабліва ў чужынцаў, і ў разуменьні сучаснага «мова ўсходнеславянская». У такіх выпадках аб’ядноўвала яна мовы беларускую, расійскую і украінскую.

*Ігар Случак*

# Светлагорскага святара вызвалілі ад пасады пасля смерці ў храме двух мужчын

***Пасля гібелі двух мужчын у храме Светлагорска святара Уладзіміра Сямёнава вызвалілі ад пасады.***

Нагадаем, раніцай 20 красавіка ў адным з памяшканняў храма ў Светлагорску былі знойдзены целы двух рабочых, якія займаліся рамонтам у царкве. Прыкмет гвалтоўнай смерці у мужчын, адзін з якіх 1985 года нараджэння, а другі 1982-га, следчыя не знайшлі.

Устаноўлена, што мужчыны памерлі ў выніку атручвання прадуктамі гарэння прыроднага газа.

Па выніках пасяджэння епархіяльнай рады Гомельскай епархіі быў прыняты шэраг адміністрацыйных і кадравых рашэнняў. Рада пастанавіла прыходу храма Святых апосталаў Пятра і Паўла ў Светлагорску ў поўным аб'ёме ўзяць на сябе ўсе матэрыяльныя выдаткі, звязаныя з пахаваннем загінулых. Імёны памерлых будуць унесены ў сінодзік прыходаў Гомельскай епархіі для пастаяннага згадвання падчас літургіі.

Епархіяльная рада пастанавіла вызваліць протаіерэя Уладзіміра Сямёнава ад пасады благачыннага цэркваў Светлагорскай акругі. На гэтую пасаду прызначаны Аляксандр Кісель, настаяцель прыхода храма Прэабражэння Гасподняга ў Светлагорску.

На пасяджэнні нагадалі, што епархіяльныя рады Гомельскай епархіі неаднаразова прымалі пастановы аб прывядзенні ў адпаведнасць з заканадаўствам і тэхнічнымі рэгламентамі і рэкамендацыямі сістэм супрацьпажарнай бяспекі, захаванні тэхнічных нормаў эксплуатацыі будынкаў, правядзенні ўсіх будаўнічых, рамонтных і іншых работ у строгай адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам. Было вырашана стварыць епархіяльным камісію па ахове працы.



# Кібермахляр выцягнуў амаль 100 млн рублёў «штрафаў» за «прагляд парнаграфіі»

***Кобрынскія следчыя распачалі крымінальную справу па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса ў дачыненні да 31-гадовага інтэрнэт-махляра.***

На след злачынца праваахоўнікам удалося выйсці ў чэрвені 2015 года. Тады ў міліцыю звярнуўся юнак з заявай аб тым, што невядомы з дапамогай аддаленага доступу заблакаваў аперацыйную сістэму яго мабільніка. Падчас расследавання следчым удалося высветліць асобу падазраванага, а таксама іншыя супрацьпраўныя схемы.

Як было выяўлена, падазраваны з 2014 года па лiпень 2015 года размясціў у інтэрнэце больш за 35 аб'яваў аб выдачы крэдытаў і пазык з указаннем розных адрасоў электроннай пошты. У ходзе перапіскі з патэнцыяльнымі кліентамі ён іх пераконваў «часова» даць яму доступ да сваіх электронных кішэняў, пасля чаго мяняў рэквізіты доступу да іх. Такім чынам, падследны завалодаў больш за 20 кашалькамі розных аплатных сістэм.

«Пры гэтым частка выкрадзеных кашалькоў перапрадавалася для правядзення нелегальных аперацый. Так, адзін з іх выкарыстоўваўся для атрымання і вываду грашовых сродкаў за псіхатропныя прэпараты, якія распаўсюджваюцца з дапамогай «закладак». Толькі за май-ліпень 2015 года з выкарыстаннем дадзенага кашалька ажыццёўлена звыш за тысячу аперацый з абаротам у памеры больш за 300 мільёнаў рублёў», — паведамілі ў абласным упраўленні Следчага камітэта.

Таксама падазраваны пад выдуманай падставай суправаджэння тэхнічных аперацый прасіў перавесці яму грошы. Выяўлена 5 падобных фактаў ашуканскіх дзеянняў на суму ад 670 000 да 3 млн беларускіх рублёў.

Акрамя таго, мужчына не грэбаваў папулярным сеткавым разводам — блакаваннем камп'ютараў за прагляд і капіраванне парнаграфічных матэрыялаў. Доступ нібыта абмяжоўваўся Міністэрствам унутраных спраў, і за аднаўленне працы неабходна было пералічыць «штраф» на электронны кашалёк. З кастрычніка 2014 года па кастрычнік 2015 года падазраваны такім чынам атрымаў звыш за 350 грашовых паступленняў на агульную суму каля 97 мільёнаў рублёў.



«Падследны валодае шырокімі ведамі ў сферы камп'ютарных тэхналогій і прадпрымаў шэраг мер па недапушчэнні яго выкрывання. Так, пры ажыццяўленні злачыннай дзейнасці ён выкарыстаў розныя праграмныя прадукты, у тым ліку кіраванне аддаленым працоўным сталом, які дазваляў ажыццяўляць яму выхад у інтэрнэт пад схаваным IP-адрасам. Для актывацыі электронных кашалькоў і ажыццяўлення кіравання імі мужчына выкарыстаў сім-карты аператараў мабільнай сувязі Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь з абаненцкімі нумарамі, зарэгістраванымі на «падстаўных» асоб. Таксама пры ажыццяўленні перапіскі з пацярпелымі той выкарыстаў выдуманыя дадзеныя», — дадалі ў абласным упраўленні СК.

Падазраванага затрымалі 19 студзеня ў Салігорску. На мінулым тыдні пацярпелымі прызнаныя яшчэ 5 жыхароў Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай і Мінскай абласцей.

У дачыненні да затрыманага распачатая крымінальная справа па ч. 2 арт. 209 (Махлярства, здзейсненае паўторна) і ч. 2 арт. 349 (Несанкцыянаваны доступ да камп'ютарнай інфармацыі, выкананы з карыслівай зацікаўленасці), ч.1 арт. 354 (Наўмыснае блакаванне камп'ютарнай інфармацыі), ч.1 арт. 354 (Унясенне змяненняў у камп'ютарныя праграмы з мэтай несанкцыянаванага блакавання інфармацыі і свядомае выкарыстанне спецыяльных вірусных праграм) КК.

*tut.by*

# Дзесяць чалавек абвінавачваюцца ў распаўсюдзе асабліва небяспечных псіхатропаў у Гомелі

***Упраўленне Следчага камітэта па Гомельскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да дзесяці ўдзельнікаў арганізаванай групы, якія займаліся продажам асабліва небяспечных псіхатропных рэчываў праз інтэрнэт-краму Exclusive_today_gg. Пра гэта паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.***



Абвінавачаныя — шэсць жыхароў Гомеля 1995-1997 гадоў нараджэння, два жыхары Мазырскага раёна з 1995 і 1994 гадоў нараджэння, а таксама грамадзянін Расіі 1993 года нараджэння і грамадзянка Украіны 1986 года нараджэння.

Следчыя высветлілі, што расеец, знаходзячыся без рэгістрацыі ў Беларусі, з'яўляўся аптовым кур'ерам і са жніўня 2015 года неаднаразова ездзіў у Мінск, дзе забіраў пакінутыя для яго ў закладках псіхатропы. Усяго ён набыў больш за 1,6 кг асабліва небяспечных псіхатропаў.

Псіхатропы прывозіў у Гомель, дзяліў на партыі, распаўсюджваў з дапамогай закладак і паведамляў месцазнаходжанне аператару інтэрнэт-крамы. Той у сваю чаргу перадаваў інфармацыю рознічных кур'ерам, якія былі дыстанцыйна завербаваныя кіраўніком групы — яго асоба яшчэ высвятляецца.

Удзельнікі арганізаванай групы старанна канспіравалі сваю дзейнасць. Яны распрацавалі механізм па планаванні, арганізацыі і здзяйсненні злачынстваў на аснове ўзгодненасці і кіравальнасці. За «неналежнае выкананне» злачынных абавязацельстваў ужываліся штрафныя санкцыі.

Дзеянні абвінавачаных кваліфікаваныя па ч.4 арт.328 (незаконныя з мэтай збыту набыццё, захоўванне, перавозка і распаўсюд асабліва небяспечных псіхатропных рэчываў, учыненыя арганізаванай групай) Крымінальнага кодэкса Беларусі.

*БелТА*

Як стаць хобітам:

— Гэтыя паперы трэба аднесці ў фірму "Ў".

— Я магу аднесці, але не ведаю куды ісці.

Опля! І вы хобіт!

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі чэрвень 2016»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на
папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA